# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ




ВІЛЕНСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА Б. А. КЛЕЦКІНА

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

# ВЯНОК

## ЗБОРНІК ВЕРШАЎ

*Другое выданьне, папраўленае*

ВІЛЬНЯ. 1927

„ВІЛЕНСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА“ Б. КЛЕЦКІНА

# Максім Багдановіч.

12/25 мая 1917 году памёр у Ялце ад сухотаў вялікі пясьняр беларускі Максім Багдановіч.

Кароткі быў шлях жыцьця Поэта, ды ліхая доля судзіла Яму і жыць і памерці — на чужыне! Хоць і радзіўся на зямлі Беларускай — у Менску (у 1892 годзе), але шуканьне куска хлеба прымусіла бацьку Яго, Адама Багдановіча, беларускага этнографа і народавольца, перабрацца ў Ніжні Ноўгарад, а пасьля — ў Яраслаўль. Там—у гэтых вялікіх, ды чужых Яму мес тах расейскіх, сярод чужое атмасфэры, жыў, гадаваўся і вучыўся Максім. Стуль толькі ў 1912 годзе, — ужо як ведамы і прызнаны Поэт, — першы раз прыехаў у Бацькаўшчыну, адведаў старую Вільню, пабываў на вёсцы — ў Вялейшчыне (каля Краснага), сярод беларускіх ніў і гаёчкаў. Толькі пасьля сканчэньня Яраслаўскага ліцэю ў 1916 годзе Максім Багдановіч едзе ўрэшце на сталую працу ў Менск. Тут — ня гледзячы на вайну — кіпіць беларускае жыцьцё. Яно захоплівае Поэта, які ўвесь аддаецца баларускай грамадзкай працы, пакуль страшная хвароба ня валіць Яго з ног. І толькі тады, як сіл да працы не хапіла, Максім Багдановіч згадзіўся споўніць просьбы сяброў і паехаць лячыцца ў Крым.

Ды было позна: нядоўга тамака „палячыўся“...

За сваё кароткае жыцьцё Максім Багдановіч здалеў, аднак, выбіцца на адно з першых месц у беларускім адраджэнскім руху: як поэт, як пісьменьнік, Ён зьвярнуў на сябе ўвагу ўсіх сьвядомых беларусаў ужо першымі сваімі вершыкамі ў „Нашай Ніве“, а пасьля — зборнічкам выбраных самім аўтарам твораў пад назовам „Вянок“, выданым у Вільні ў 1913 годзе. З таго часу вершы, апавяданьні і крытычныя стацьці Максіма Багдановіча зьяўляліся ў розных беларускіх журналах і газэтах, пападалі і ў украінскую ды расейскую прэсу і захоплівалі ўсіх сваім асаблівым хараством і глыбокімі думкамі.

Паміраў Поэт адзін — сярод чужых. Але ня чуў сябе самотным—там над морам: Ён меў заўсёдную ўсладу ў створаннай Ім-жа красе. І калі памёр, ля ложка Ягонага была знойдзена кніжачка „Вянка“, а на ёй слабеючай ужо рукой Поэта было напісана-

У белым доме, дзе я ўміраю,
Над сінім морам, ля самай бухты,
Я несамотны: я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты... [1]).

* * *

Дзесяць гадоў мінула з таго дня, калі сумная вестка аб сьмерці Максіма Багдановіча разыйшлася па ўсей Беларусі. Многа перажыў-перацярпеў наш народ за гэты час бур-навальніцаў, што зьнішчылі нашу Бацькаўшчыну. Многа яркага — і добрага, а яшчэ больш благога — бачылі мы на роднай Зямлі

[1]) У друкарні М. Кухты ў Вільні быў адбіты „Вянок“

Ад мамэнтаў вялікай радасьці пры спаўненьні нашых найсьвяцейшых ідэалаў мы ўжо гэтулькі разоў так рэзка, так неспадзявава пераходзілі да поўнае ўтраты веры ў самы ідэал. Білі нас па нервах і свае і чужыя, — білі балюча, безміласэрна...

Пасьля бур, пасьля вострых перажываньняў душа шукае супакою, адпачынку. Думка кіруецца ў тыя сфэры, дзе пануе чыстая краса і гармонія. І цяпер больш, чым калі, мы адчуваем патрэбу абмыць душу ў чыстай крыніцы поэзіі, мастацтва. І цяпер лепш, чым калі, мы можам адчуць і зразумець Багдановіча і ацаніць вялізарную ўтрату ў асобе Яго.



Хараство поэзіі Багдановіча ня ў сіле, ня ў тым магутным творчым размаху, які выяўляецца, напрыклад, у Купалы, ня ў красачнасьці, сакавітасьці абразоў прыроды, чым так чаруе нас Колас. Багдановіч — **п о э т п а ў т о н а ў**. Свае фарбы ён бярэ з паблеклых старадаўніх тканін, з малюнкаў сьвятых кніг, пісаных многа сот лет таму назад на пэргамэньце, з засохшых красак родных палёў. Яго грудзі ўдыхаюць „воску з ладанам прыёмны пах“, якім пранікнуты страніцы збутвелых ад часу фоліянтаў. Прад Яго вачыма праносяцца празрыстыя, як косы месяца, разьвеўныя і маўклівыя русалкі, Яму грае ў бары лясун, — і вадзянік, пакрыты адвечным ілам, вядзе з ім разгавор. Уваскрасаюць „слуцкія ткачыхі“ і, захопленыя хараством прыроды, у пэрсідзкія ўзоры паясоў нясьведама ўплятаюць „цьвяток радзімы васілька“. А ў бруднай, ўпэцканай васьмігадовай дзяўчынцы-няньцы ён выкрывае

цудоўны бліск пачуцьця мацярынства — той самы бліск, каторы вялікі Рафаэль стараўся адмаляваць на ліках сваіх Мадоннаў. Паўтоны ў фарбах, у гуках, ў паражываньнях — вось асноўная рыса творчасьці Максіма Багдановіча.

У гэтым ён ня мае падобных сабе. Ён стаіць здалёк ад ўсіх другіх нашых песьняроў. Ён наскрозь індывідуальны, новы, беспадобны. Яго ролю ў беларускай поэзіі можна прыраўнаваць да ролі таго, хто ўвёў у музыку паўтоны, хто на іх збудаваў новую гармонію.

У аснову свае гармоніі Багдановіч паклаў лад мінорны: Ён іграе на бэмолях. І гэта зусім зразумела: гэта выплывае з Яго індывідуальнасьці. Ад маладых гадоў хворы на сухоты, ведаючы, што сьмерць бязупынна стаіць у Яго за плячыма, Багдановіч ня шукае ў жыцьці сьвету, ні радасьці, ні асабістага сшчасьця, а, наадаврот, як-быццам зачыняецца ў самым сабе, услухваецца ў музыку свае нязвычайна інтэлігентнае, багатае, чуткае душы і пераліваае гэту музыку ў абразы і словы. Згэтуль выплывае і агульны тон поэзіі Багдановіча, які мамэнтамі напамінае сум і тугу бяссьмертных твораў Шопэна.



Мала можна знайсьці ў нашай літэратуры прыкладаў такой поўнай, як ў Багдановіча, гармоніі паміж думкай ці пачуцьцём, выяўленым у вершы, і формай яго — будовай і падборам гукаў. Сустракаем гэткую гармонію толькі ў найвялікшых нашых песьняроў, дый то не заўсёды. У Багдановіча — гэта агульнае

правіла. Узгадаваны на найлепшых узорах сусьветнае літэратуры, захоплены нязвычайнай музыкальнасьцю вершу Вэрлена, творы якога з піэтызмам перакладаў на беларускую мову, Багдановіч датуль працаваў над кожным сваім вершам, датуль шліфаваў яго, пакуль не дахадзіў да таго, чаго жадаў. А гэты крытык, срогі для другіх, быў асабліва срогім судзьдзёй для сябе самога і вымагаў ад сябе вельмі многа! І затым-то вершы Багдановіча — гэта ідэальныя ўзоры для маладых беларускіх поэтаў. Багдановіч — вялікі вучыцель: ён паказаў, як, маючы ў душы іскру божую, можна выказаць роднай мовай усё, што перажывае, што адчувае ня толькі „народ просты", але і інтэлігэнт эўропэйскага тыпу. Багдановіч прысвоіў сабе ўсе формы вершу, вядомыя ў літэратуры найбольш культурных народаў, даказаўшы гэтым гібкасьць і багацьцэ беларускае мовы. Бачым у Яго клясычныя пэнтамэтры, зграбныя трыялеты, рондо, паважную октаву, — а Яго сонэты з боку тэхнікі вышэй усялякай крытыкі. Ён — **м а с т а к ф о р м ы**: Ён зусім апанаваў тэхніку вершаў, падчыніў сабе матар'ял і карыстаўся гэтым зусім сьвядома.



Праўдзівая краса прамаўляе да душы і сэрца кожнага, хто здолен яе адчуваць, незалежна ад таго, які народ творыць яе. **Н а ц ы я н а л ь н а е с т а е ц ц а а г у л ь н а л ю д з к і м п р а з у к р ы т у ю ў і м ч ы с т у ю к р а с у.** Вось чаму творы Багдановіча, хаця і збудаваныя з нацыянальна-беларускіх элемэнтаў, маюць агульналюдзкую цану: як пясьняр чыстае красы,

Багдановіч выбірае для сваe творчасьці беларускія элементы не затым, што яны — родныя Яму, а затым, што ў іх ёсьць сапраўднае хараство. І ў гэтым вялікая заслуга Яго: бо такім чынам найлепшыя творы беларускай нацыянальнай душы ўзьнімаюцца на тую ступень, на якой стаяць такія-ж творы іншых народаў, што здабылі ўжо даўно сусьветнае прызнаньне. Выкрываючы вечную, няўміраючую красу ў нашым родным, беларускім, Багдановіч уводзіць нас у сям'ю культурных народаў з большаў пэўнасьцю, чымся тыя, хто піша вялікія трактаты аб нашым праве на гэта.

Пройдуць гады, зьменяцца варункі нашага жыцьця, і многа спаміж твораў тых, хто сягоньня жывым мастацкім словам змагаецца за права нашага народу на жыцьцё і волю, хто апісвае нуду і гора беларускай вёскі, хто кляйміць крыўдзіцеляў нашых за зьдзек і гвалты над Беларусамі, — многа спаміж іх будуць забыты, захаваўшы толькі гістарычнае значэньне. Але ўся творчасьць Багдановіча не затраціць сваe цаны ніколі· бо краса ніколі ня ўмірае, бо Пясьняр Чыстае Красы ніколі няможа быць забыты і будзе так сама прамаўляць да душы і сэрца нашых унукаў, як прамаўляе цяпер да нас.

*Май 1927* *Ант. Навіна*

ВЯНОК НА МАГІЛУ
С. А. ПАЛУЯНА.
(† 8-га красав. 1910).

Вы, хто любіце натрапіць
Між страніц старых, пажоўклых
Кнігі, ўжо даўно забытай,
Блеклы, высахшы лісток, —
Праглядзеце гэты томік:
Засушыў я на паперы
Краскі, сьвежыя калісьці,
Думак шчырых і чуцьця.

# Малюнкі і сьпевы.

Этотъ листокъ, что изсохъ и свалился,
Золотомъ вѣчнымъ горитъ въ пѣснопѣньи.

*А. Фетъ.*

# Нізка вершаў: „У зачарованым царстве“.

O voi, ch'avete gl'intelletti sani
Mirate la dottrina, che s'asconde
Sotto'l velame degli versi strani.
D a n t e. Inf. IX.

* * *

Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна граць:
Пад рукамі яго, развiажаючы сум,
Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,
Тонкаствольныя сосны зьвіняць.

ці трэба казаць, чаму сьціхла рака,
Не шасьцяць у палёх каласы
І аб чым шапаціць галасок вецярка,
Што зіяе-дрыжыць на лісьцёх лазьняка:
Кроплі сьлёз, ці халоднай расы?

1910

## ВОЗЕРА.

Стаяў калісь тут бор стары
І жыў лясун у тым бары.
Зрубалі бор, — лясун загінуў.
Во' сьлед яго ад тэй пары:
Сваё люстэрка ён пакінуў.

Маўляў у іншы сьвет вакно
Ляжыць, спакойнае, яно,
Жыцьцё сабою адбівае
І ўсё, што згінула даўно,
У цёмнай глыбіні хавае.

## НАД ВОЗЕРАМ.

Сонца ціха скацілася з горкі;
Месяц белы заплаканы сьвеціць,
Аглядае бахматыя зоркі,
Цягне з возера срэбныя сеці.

Ў іх русалкі заблуталі косы, —
Рвуць і блутаюць срэбныя ніці,
Ноч плыве над зямлёй, сее росы,
Ноч шапоча русалкам: „засьніце“...

# ВАДЗЯНІК.

Сівавусы, згорблены, я залёг між цінай,
І гадамі грэюся — сплю на дне ракі.
Твар травой аблутаны быццам павучынай,
Засыпаюць грудзі мне жоўтыя пяскі.

Над вадой ля берега ціха сьпіць асока,
Ды лаза зялёная жаліцца-шуміць,
Хвалі ціха коцяцца і бягуць далёка, —
І усё навскала сном адвечным сьпіць.

## ЗЬМЯІНЫ ЦАР.

Ў цёмным небе — хараводы
Сіняватых зрак,
Ў цёмным небе сьвеціць месяц
Залатым сярпом...
Мы ўжо выйшлі з цесных, душных
Пад'зямельных норак,
На зімовы цёплы вырай
Цягнемся-паўзём.

Ў полі, ў лесе, нам усюды
Пралеглі дарожкі!
Ўстужкай рушымся між пушчы,
Насамперад — я.
Зіхацяць маей кароны
Залатыя рожкі,
Цёмным бліскам адлівае
Ўся луска мая.

Нам ня трэба ні ад чога
Ноччу абароны, —
А спаткаем чалавека,
Порт рассьцеле ён:
Залаты ражок яму
Я ўраню з кароны,
І праз белу палатніну
Дальш мы папаўзём.

## БУРА.

Панурая, вялізная жывёла
Па шыры неба ўдаль марудна праплывае.
Ўсё сьціхла. Але вось паветра расьсякае
Агністы меч і зіхаціць вясёла.

Ударыў ён — і грукат пракаціўся;
Мігае грозны меч, удары не змаўкаюць,
І ўніз халодныя бічы крыві сьцякаюць,
А людзі кажуць: „гэта дождж праліўся“.



Ў небе — ля хмары грымотнай — празрыстая,
лёгкая хмара
Шпарка плыла, і абедзьве чагось чырванелі ад
жару.
Зьліцца жадалі яны — зрабіліся-б хмарай магутнай,
Але далёка іх вецер разьнёс, наляцеўшы нячутна.

Дробным дажджом над зямлёй, як сьлязамі, адна
пралілася;
Гулкім раскатам грымотаў другая ў адказ азвалася.
І паасобку загінулі хмары бяздольныя тыя,
Чуючы ў небе, як вецер над сьмерцю іх радасна
вые.

# ВОЗЕРА.

Ў чарцы цёмнай і глыбокай
Плешча, пеніцца віно;
Хмелем сьветлым і халодным
Калыхаецца яно.

І хістаецца асока,
І шуміць высокі бор,
А ў душы не замаўкае
Струн вясёлых перабор.

Оглянись — и міръ вседневный
Многоцвѣтенъ и чудесенъ.
А. Фетъ.

Прывет табе, жыцьцё на волі!
Над галавой — дубоў павець,
Віднеюць неба, горы, поле
Праз лісьцяў сець.

Лахмоцьці ценяў на палянах,
Схаваўшы золата, ляжаць;
Яго слаі з-пад дзір парваных
Аж зіхацяць.

А к ночы свой чырвоны веер
У небе сонца разьвярне,
І разварушаны ім вецер
Удаль памкне.

Калі-ж а пабляднее золак
І цёмнай зробіцца вада, —
Зазьзяе серабром іголак
Зор грамада.

І роўна мілымі зрабіцца
Здалеюць яркі бліск і дзень,
Той дзень, што мае нарадзіцца,
І зьнікшы дзень.

* * *

Блішчыць у небе зор пасеў;
У полі — рунь, і ў небе — рунь.
Да рэчкі лецячы, ўзьляцеў
Між імі марай белы лунь.

Кажан пранёсься на крылох
Стракочуць конікі ў траве,
Снуюцца мышы па палёх,
Здаецца — ўсё вакол жыве.

Жыцьцё чуваць з ўсіх старон,
Жыцьцём напоўнены ўвесь мрок.
Ці-ж загубіў плывучы сон
З чырвоных макаў свой вянок?



Цёплы вечар, ціхі вецер, сьвежы стог —
Улажылі спаць мяне вы на зямлі.
Не ўстае стаўпом пыл сьветлы ўздоўж дарог,
Ў небе месяца праглянуў бледны рог,
Ў небе ціха зоркі расцьвілі.

Заварожаны вячэрняй цішынёй —
Я ня цямлю, дзе рука, дзе галава;
Бачу я, з прыродай зьліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,
Чую ўцішы, як расьце трава.

* * *

Добрай ночы, зара-заранiца!
Ўжо імгла над зямлёю лажыцца,
Чорнай рызай усё пакрывае,
Пылам зор небасхіл абсявае,
Цішыня агартае мне душу!
Вецярок прыдаржную грушу
Ледзьве чутнаваруша-калыша,
Міла бомы сьмяюцца уцішы,
Ціха срэбрам грукае крыніца.
Добрай ночы, зара-заранiца!

* * *

Ціха па мягкай траве
Сінявокая ноч прахадзіла;
Ціха з заснуўшых палян
Плыў угару і зьнікаў,
Быццам дым сіняваты з кадзіла,
Рэдкі правідны туман;

Неба, ўсю глыб ажывіўшы,
Патроху праз цемнь выглядалі
Зорак дрыжачых вянкі;
Конікі суха зьвінелі;
Шырэй разьліваліся хвалі
Цёмнай люстранай ракі;

Пала раса; у палёх
Загарэліся пацеркі мілых
Жоўта чырвоных агнёў...
Час, калі трэба журыцца
Душою на сьвежых магілах
Пуста пранёсшыхся днёў.



Вечар на захадзе ў попеле тушыць
Кучу чырвоных кавалкаў вугля;
Ціха ўсё; вецер лістка не зварушыць,
Не скалыхнуцца ні траўкай паля;
Цёмныя цені даўжэй у лагчыне,
Птушкі прыстаўшай марудней палёт;
Сумна плыве маладзік бледна-сіні
Ў небе вячэрнім, зялёным, як лёд;
Іскрацца зорак сьняжынкі маркотна,
Збожжа пакрылася шызай расой...
Кіньма-жа думкі аб долі гаротнай,
Хоць-бы на момант спачынем душой!

## СОМНАМБУЛ.

Месяц выплыў над змрочнай, заснуўшай зямлёй,
І павёў яго ў цёмную даль за сабой,
І прывабіў да мглістай, халоднай вады, —
Сэрца білася рыбкай у сеці тады.
Але месяц правёў праз рэкі сьветлы шлях
І разьвеяўся з сэрца дрыжачага жах.
Зіхацела яна — серабра пуціна,
Увадзіла ў той край, дзе пануе вясна,
Доўга, доўга цябе ён чакаў і шукаў,
Але вось час жаданы нярэшце настаў...
І пайшоў ён па шляху, пайшоў аж да дна:
Агарнула яго цішыня, глыбіня.

Цвѣты осенніе милѣй
Роскошныхъ первенцевъ полей
А. Пушкинъ

* * *

Плакала лета, зямлю пакідаючы;
Ціха ліліся сьлязінкі на поле,
Але прыгожаю восеньню яснаю
Там, дзе упалі яны, выраслалі
Кветкі васеньнія, кветкі ўспаённыя
Тугаю, горам, сьлязінкамі лета, —
Кветкі асеньнія, родныя, бледныя!
Вырасьлі вы, каб ураз-жа і згінуць.
Можа таму-то душа надарваная
Гэтак любоўна вянок з вас сплятае.

* * *

Дзесь у хмарах жывуць павукі,
Што снуюць павучыну дажджа.
Кожны тлусты і мягкі такі,
Скура сьлізкая, як у вужа,
Ў целе стыгне халодная кроў,
Злосьць бязцэльная ў круглых вачах...
Чу! Чуваць шорах ног павукоў,
Аплятаючых сьцены і дах.

## РАЗРЫТАЯ МАГІЛА.

Polatuj nad groby,
Piosenko żałoby.
Żygliński.

Дробны дождж сячэ, ліецца;
Вецер злосна ў хату рвецца,
Ў полі стогнам аддаецца,
Стукне ў дзьверы і вакно; —
Сэрца беднае заб'ецца
І адразу ў ім прачнецца,
І адразу скалыхнецца
Ўсё, што згінула даўно.

Ўспомніць сэрца, што любіла,
Ўспомніць моладасьць і сілу,
Ўсё, што зьнікла і уплыла,
Ўсё успомніць, як у сьне. —
Бачу: сэрца не забыла,
Што жыцьцё ў ім загубіла...
І разрытаю магілай
Вее сумна на мяне.



Ноч. Газьніца гарыць, чырванее
І гарбата, астыўшы, стаіць.
За сьцяной запявае завея,
Сумна бомамі ў полі зьвініць.
З краю ў край яе гул аддаецца.
І чагось усё думаю я,
Што з няволі зімовай там рвецца
Крэпка скутая сьнегам зямля:
Грудзі моцныя цяжка ўздымае,
Ветрам вее, як дыхаць пачне,
Сьнег халодны ў палёх калыхае
І вось-вось свае путы страхне.

## ЗІМОВАЯ ДАРОГА.

Шпарка коні імчацца у полі,
Сумна бомы гудзяць пад дугой,
Запяваюць аб долі і волі,
Навяваюць у сэрцы спакой.

Ўюцца зьмейкай срабрыстай дарожкі,
Брызгі золата ў небе блішчаць,
І маркотныя месяца рожкі
Праз марозную мглу зіхацяць.

Поле нікне у срэбным тумане,
Сьнег блішчыць, як халодная сталь,
І лятуць мае лёгкія сані,
Унашуся я ў сінюю даль.

## ЗІМОЙ.

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мягкі сьнег!
Мяцель ня вее, сьціхнуў вецер
І волен лёгкіх санак бег.

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць.
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, сьветлы стоўп спусьціў
І рызай срэбнаю раздольле
Сьнягоў сінеючых пакрыў.

Ўзрывайце-ж іх санямі, коні!
Зьвіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзёх пачала кроў кіпець.

## ПЕРАД ПАВОДКАЙ.

Праясьняецца пагода,
Бо вярнулася вясна.
Ўсё чакаеш, што прырода
Ўстрапянецца ада сна.

І пад птушы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме бацька Нёман
На хрыбце магутным лёд.

Зазьвіняць жалобна крыгі,
І бурлівая вада
Сьнег, размоклы ў час адлігі,
Змые з луга без сьляда.

Дык разьлійся-жа раздольна
У чыстым полі і гаю,
І красой паводкі вольнай
Душу выпрастай маю!



Падымі угару сваё вока —
І ты будзеш ізноў, як дзіця,
І адыйдуць-адлынуць далёка
Ўсе трывогі зямнога жыцьця.

Ціха тучу блакіт закалыша,
У душы адрасьце пара крыл, —
Узьляціць яна ў сінюю вышу
І ў струях яе змые свой пыл.

Там ня трэба ні шчасьця, ні ласкі,
Там няма ні нуды, ні клапот.
Ты — царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара — дыван-самалёт!

## МАЁВАЯ ПЕСЬНЯ.

De la musique avant toute chose.
P. Verlaine.

Па-над белым пухам вішняў,
Быццам сіні аганёк,
Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк.

Навакол усё паветра
Ў струнах сонца залатых, —
Ён дрыжачымі крыламі
Звоніць ледзьве чутна ў іх.

І ліецца хваляй песьня, —
Ціхі, ясны гымн вясьне.
Ці ня сэрца напявае,
Навявае яго мне?

Ці ня вецер гэта звонкі
Ў тонкіх зёлках шапаціць?
Або мо' сухі, высокі
Ля ракі чарот шуміць?

Не паняць таго ніколі,
Не разьведаць, не спазнаць:
Не даюць мне думаць зыкі,
Што ляцяць, дрыжаць, зьвіняць.

Песьня рвецца і ліецца
На раздольны, вольны сьвет,
Але хто яе пачуе? —
Можа толькі сам поэт.

# РОМАНС.

Quand luira cette etoile un jour,
La plus belle et la plus lointaine,
Dites-lui qu'elle eut mon amour,
O derniers de la race humaine.

Sully Prudhomme

Зорка Вэнэра ўзыйшла над зямлёю
Сьветлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Вэнэра ўзыйшла.

З гэтай пры я пачаў углядацца
Ў неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханьнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.

Але расстацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас!
Моцна кахаў я цябе, дарагая, —
Але расстацца нам час.

Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю,
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.

Глянь іншы раз на яе, у расстаньні,
Там з ёй зьліём мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханьне,
Глянь іншы раз на яе...

## ДОСІ ЎЖО ПРАЦЫ.

Гэй, варушэцеся, коні панурыя,
Досі ўжо працы, бо сонца зайшло!
Ярка-чырвоныя, жоўтыя, бурыя
Боразны ў небе яно правяло.

Хутка ўжо зоркі зірнуць сіняватыя,
Месяц пакрые палі палатном...
Досі ўжо! З вамі вярнуся да хаты я
І пазабудуся сном.

# Ніжка вершаў „Згукі бацькаўшчыны“.

* * *

Ўся ў сьлязах дзяўчына
  Хіліцца да тына.
Поруч з ёю пад расою
  Зіхаціць шыпшына.

    Вецер павявае
    І расу страхае
  Ой, напэўна і дзяўчына
  Лек на сьлёзы мае.

  Адгадайце-ж, людзі,
Хто страхаць іх будзе
І чаму ён, жоўтадзюбы,
  Аж дасюль марудзе?



Сумна мне, а ў сэрцы смутак ціха запявае:
„Сьцежка ў полі пралягае, траўкай зарастае.

Каля сьцежкі пахіліўся явар да каліны, —
Там кахаліся калісь-то хлопец і дзяўчына.

Ой, ішла дарога долам, ды ішла і горкай, —
Не схавалася дзяўчына ад тэй долі горкай:

Бо ляжыць яе дарожка, траўкай зарастае;
Сумна глянуць, цяжка бачыць, жаль душу праймае".

* * *

Ня кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары;
Мо' і сказаш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары.

Бо на тое сьведчыць маё сэрца,
Грудзі хворыя мае;
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае.

Кажа, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары...
Прыляці-ж тады ты на магілу,
Закувай, як у бары.

# ЯН І МАЦІ.

Ты стамілася, змарнела, сьлёз праліла рэчку.
Што-ж, пастаў прад абразамі, запаліўшы, сьвечку:

Мо' паможа Яну гэты сьвет і пацер словы...
Асьвяціла сьвечка з воску хлопца твар васковы.

Тае воск і ўніз ціхутка капелькі сьцякаюць,
А ў вачох збалелых Яна сьлёзы праступаюць.

Сьвечка сьвеціць, сьвечка зьзяе, сьвечка дагарае,
І ў панурай, цеснай хаце хлопец памірае.

Ой, ня век-жа сьвечцы тонкай зіхацець, гарэці.
Дагарыць яна і зьнікне, як і ўсё на сьвеце...



Сэрца ные, сэрца кроіцца ад болю:
Ой, пайду я з цеснай хаты ў тое поле.
Ў чыстым полі вецер вее, павявае, —
Ты пакінь мяне, нуда мая нямая!
Я тады-б у песьні звонкай, салаўінай
Выліў тугу і на вецер буйны кінуў.
І разьвеяў-бы яе ён па раздольлі,
Каб ня ўбачыць мне ніколі ўжо нядолі.

# ВЕЧАР.

Месяц круглы ўстаў на небе,
Блішчыць нявысока,
Увесь чырвона-жоўты, быццам
Пугачова вока.

З мілым задушэўным зыкам
Важкі хрушч лятае;
Пра няшчаснае каханьне
Нехта напявае.

Голас полем пракаціўся,
У бары аддаўся:
„А дзе-ж тая крынічанька,
Што голуб купаўся?" —

І снуюцца сумна ў сэрцы,
Ўюцца адгалоскі
Горкай песьні, простай песьні
Беларускай вёскі...

# Нізка вершаў „Старая Беларусь“.

Усё прайшло, мінула,
Як і ня было,
У капцох паснула,
Зельлем зарасло.

Я. Купала

## ЛЕТАПІСЕЦ.

„Душой стаміўшыся ў жыцьцёвых цяжкіх бурах,
Свой век канчаю я у манастырскіх мурах
І пільна летапісь другі ўжо год пішу:
Старанна літары малыя вываджу
І сьпісваю усё ад слова і да слова
З даўнейшых граматак пра долю Магілёва.
І добрыя яго, і кепскія дзяла
Апавядаю тут. Так рупная пчала
Умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак.
І бачанаму мной — я годны веры сьведак.
Хай тыя ведаюць, што зьявяцца па нас,
Ўсю праўду пра жыцьцё у наш і прошлы час,
Пра войтаў, лаўнікаў, і райцаў і паспольства,
Пра розных каралёў, і бітвы і пасольства.
Што тут чынілася у даўныя гады,
Што думалі, чаго бажалі мы тады,

За што змагаліся, як баранілі веру, —
Хай зьведаюць усё патомкі праз паперу!
Яно забудзецца, умрэ, з вадой сплыве, —
І вось у спомінах устане, ажыве,
Калі знайдуць маё няхітрае пісаньне
Пра гэтае жыцьцё, надзеі, спраўваньне.
Так мора — ў Гданску я чуваў — прымчыць вадой
Бутэльку к берагу, аблітую смалой,
Ўсю ў дробных ракаўках і ў ціне. Не замала
Яна была ў вадзе і шмат чаго спаткала.
Рыбалкі вылавяць бутэльку, разаб'юць
І, як трапляецца, быць мо' у ёй знайдуць
Ліста. Па звычаю марскому гэтак весьці
Нам, утапаючы, шлюць людзі. Ў моры гдзесьці
Загінулі яны, і, можа, соткі год
З тых часаў працяклі, і згінуў іх народ,
І ўсё зьмянілася, і ўжо пра іх забылі.
Вы, літары, цяпер нанова ўсё збудзілі!
І людзі зьведаюць аб прадзедах сваіх
Аб горы, радасьцях і аб прыгодах іх,
Каму маліліся, чаго яны шукалі,
Дзе на глыбокім дне іх крыюць мора хвалі*.

# ПЕРАПІШЧЫК.

На чыстым аркушу, прад вузенькім вакном,
Прыгожа літары выводзіць ён пяром,
Ўстаўляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку; усякімі цьвятамі,
Рознакалёрнымі галоўкамі зьвяроў
І птах нявіданых, спляценьнем завіткоў
Ён пакрашае скрозь — даволі ёсьць знароўкі.
Свае шматфарбныя застаўкі і канцоўкі,
І загалоўкі ўсе, — няма куды сьпяшыць!
Парой ён спыніцца, каб лепей завастрыць
Пяро гусінае, і гляне: сьветла сонца
Стаўпамі падае праз вузкае ваконца
І крупіцца у іх прыгожы, лёгкі пыл;
Як сіняваты дым нявідзімых кадзіл,
Рой хмарачак плыве; шырокімі кругамі
У небе ластаўкі шыбаюць над крыжамі,
Як жар, гарашчымі; а тут, каля вакна,
Маліноўка пяе і стукае жаўна.

І зноў ён схіліцца, застаўку зноў выводзіць
Нбяркім серабром; нячутна дзень праходзіць,
Ўжо хутка будзе ноч і першая гвязда
Багаславіць канец прыгожага труда.

# КНІГА.

Псалтыр, пакрытую няжорсткай, бурай кожай,
Я ўзяў і срэбныя засьцежкі адамкнуў,
Перачытаў рады кірыліцы прыгожай,
І воску з ладанам прыемны пах пачуў.

Вось псальма сьлічная: „Як той алень шукае
Крыніцы чыстай, так шукаю бога я“.
Як вее сьвежасьцю яе краса жывая!
Як радасна ўсё дальш сьпяшыць душа мая!

І бачу я ў канцы няхітрую прыпіску,
Што, „кнігу гэтую раб божы, дзяк Гапон,
Дзеля душы сьпісаў у месту Ваўкавыску
У рок сем тысяч сто васьмы з пачатку дзён“.

# СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ.

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад пэрсідзкі ткуць яны.
А за сьцяной сьмяецца поле,
Зіяе неба з-за вакна —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцьвіла вясна,
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам зьзяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі.
Цямнее край зубчаты бору...

І тчэ, забыўшыся, рука
Заміж пэрсідзкага узору
Цьвяток радзімы васілька.

## БЕЗНАДЗЕЙНАСЬЦЬ.

Скарына, доктар лекарскіх навук,
У доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры.
Яны спрыяюць! Час! З рухавых рук
Скарыны п'е адвар пан земскі пісар хворы.

І ўраз пабачыў ён, што ізумруд
Ў пярсьцёнку залатым на пальцы штось імгліцца,
Што бліску ў ім няма... І з болем тут
Ён зразумеў, што ўжо к жыцьцю не вараціцца.



Ціхі вечар; зьнікнула сьпякота,
Весялей струіцца між чарота
Рэчка, што ўцякае у ставок;
Ўкруг яго ідзе вярбін вянок
Яшчэ зялёных, сьвежых, хоць каравых;
Плесьня каля берагоў іржавых
Саматканым поясам ідзе
І лілеі расцьвялі ў вадзе;
Часам з візгам ластаўка малая
Пранясецца нізка, і чаркае
Крылечкам з разгону гладзь стаўка,
Налякаўшы гэтым матылька.
Часам лінь ці окунь успляснуцца
І кругі шырока разыйдуцца;
Часам выпаўзаюць паляжаць
Тут вужакі шэрыя на гаць,
У канцы каторай млын схіліўся;
Спарахнеў ён, ледзь не разваліўся.
Пачарнела кола і даўно
Мохам цёмным абрасло яно.
Але сёньня ходзіць кола млына,
Бо прыйшла да млынара дзяўчына,
Каб мог скруху з сэрца збыць,
У белай вопрацы яна стаіць,

Нахіліла смуглую галоўку
І чуваць, як сэрца праз шнуроўку
Часта б'ецца. А стары млынар
Тройчы брызнуў ёй вадой на твар
І, уставіўшы на хвалі вочы,
Прыглушаным голасам шапоча:
„Пакланюсь я табе, царыца,
Чыстая, сьцюдзёная вадзіца.
Ты цячэш балотамі, імхамі,
Жоўтымі, сыпучымі пяскамі,
Берагі крутыя падрываеш,
Дрэвы ды камні падмываеш
І нясеш іх ■ мору-акіяну,
К выклятаму востраву Буяну.
Там і вецер буйны ня гуляе,
Там і сонца краснае ня зьзяе,
Там ня блішча ясная зарніца
І прыносіш ты туды, вадзіца,
Важкі сум ад сэрца Кацярыны.
Я навокал абваджу тры тыны,
На замок іх моцна замыкаю,
Ключ у мора-акіян кідаю.
Як са дна ключу ўжо не падняцца
Так і гэтым словам ня мінацца".

І падносіць млынару дзяўчына
Яек рэшата і палатніну.



Па ляду, у глухім бары,
Дзе, ля ральлі стаяць тры хаты,
Мужык ідзе, — на сьвітцы латы,
А сам няхібкі, хоць стары,

З чупрынай, белаю, як лунь,
І з барадою сьнегавою,
Зямлёй прапахшы і сасною,
Ён пільна ўсё глядзіць на рунь.

„А каб ты здох!“ Бач, па расе
Хтось трапіў к збожжу ад крыніцы;
Дык вось і вузкі сьлед капытца:
Алені тут былі ў аўсе.

Ўсё знішчаць, падлы, хоць ня сей, —
Не дачакаеш умалота!
А тут яшчэ цераз балота
Не прабярэшся да людзей.

Снуюцца хмарай камары;
Кішмя-кішаць у зёлках гады;
Падшывам абрастаюць ляды...
Зьвядуць, зьвядуць людзей бары.

Даўно пачаў „хадзяін“ дбаць,
Каб пушча тут была нанова,
Ды толькі ведае дзед „слова“,
А то дабра-бы не зазнаць.

# Нізка вершаў „Места“.

Ты — чарователь неустанный,
Ты — не слабѣющій магнитъ.
А. Брюсовъ.

## ЎСТУП.

Зьвярнуў калісь Пэгас на вулкі
З прывольных, палявых дарог, —
І пракаціўся топат гулкі
І іскры сыпнулі з-пад ног.

У грудзі кволыя запала
Дачка каменьняў, места мне.
Пачую и тэй іскры жала
І верш аб месьце з сэрца мкне



Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людзкі скрозь заліў паясы тротуараў,
Блішчаць вокны, ліхтарні ўгары зіхацяць
І гараць аганьком вочы змучаных твараў!

А завернеш ў завулак — ён цесны, крывы;
Цёмны шыбы глухіх, старасьвецкіх будынкаў;
Між каменьнямі — мох і сьцяблінкі травы,
І на вежы, як круглае вока савы,
Цыфэрблят — пільны сьведка мінулых учынкаў.

Ціша тут. Маўчаліва усталі — і сьняць
Ў небе копулы, брамы, байніцы і шпіцы;
Грук хады адзінокай здалёка чуваць,
Часам мерныя ўдары звана задрыжаць
І замоўкнуць, памкнуўшы ад старай званіцы.

Ўспамяні, маё сэрца, даўнейшыя дні!
Па загаду бурмістра усе, як належа,
Зачынілі ўжо вокны, згасілі агні...
Варта вулкай прайшла... І ня сьпім мы адны—
Я ды чорны кажан, што шнуруе ля вежы.

## У ВІЛЬНІ.

(*Сонэт*).

Ліхтарняў сьвет у сіняй вышыне...
Вітрыны... мора вывесак... як плямы,
Аннонсы і плакаты на сьцяне.
Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
Снуюць хлапцы, суючыя раклямы...
Разношчыкі крычаць ля кожнай брамы...
Грук, гоман, гул, — усё ракой імкне.

А дальш — за радам касс, лёмбардаў,
банкаў, —
Агні вакзала... па̀вадка хурманкаў...
Віры людзей... сіпяшчы паравоз...
Зялёны семафор... пакгауз... склады...
Заводаў коміны пад цьмой нябёс...
О, горада чароўныя прынады!



За дахамі места памеркла нябёс пазалота;
Паветра напоена ціха гусьцеючым мрокам;
Ўжо відна, як іскры зьлятаюць з трамвайнага дрота.
Як зоркі гарацць і зрываюцца ў небе далёкім.

Музыкі стагнаньне ліецца па вулках з бульвара;
Гарацць і агнём машкару к сабе вабяць ліхтарні;
Ўкруг тоўстага шкла яна ўецца, як лёгкая хмара.
А ні сьвятлу праібцца ня можа і топіцца марна.

І ўспомніў я час: срэдзь васеньняй нахмуранай ночы
Музыка зайграла, агні ў вышыне запылалі,
Ўдыхалі грудзі шырока, сьвяціліся вочы...
Мы к сьветлу ўзьляцелі... і шкло ўкруг яго
напаткалі



На глухіх вулках — ноч глухая,
Няменш глухі людзкі натоўп.
Дык хто-ж пачуе, як сьпявае,
Як стогне тэлеграфны стоўп?

І места, дзе няма прастору
Дзеля прыроды буйных сіл,
Прабіла сьцежку мору гора
Палёў, лясоў, капцоў магіл.

Палёў, дзе круціць завіруха,
Ўзрываючы халодны сьнег,
Палёў, дзе ўсё бушуе глуха,
Дзе чутна разам стогн і сьмех!

І вось той гул мне ў душу ўліўся
Гудзі, гудзі, дрыжачы дрот!
Ўвесь бледны, млосны прыхіліўся
Я ля ліхтарні да варот.

## ЗАВІРУХА.

У бубны дахаў вецер б‘е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.

І сьпеў ліецца ўсё мацней, —
Гулянку спрвіў пан Падвей.
У бубны дахаў вецер б’е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.

Ўскіпела сьнежнае віно
І белай пенай мкне яно.
У бубны дахаў вецер б’е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.

Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сп’янелая мяцель.
У бубны дахаў вецер б’е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.

* * *

Сеў хлопчык з шкляначкай ля вулічнага ганку
І выдувае з мыла пузыры.
Вясёлкаю гарадь яны ў зіяньні ранку,
Ўзьлятаючы ў паветра дагары.

І заварожаны шматфарбнаю красою.
Са спрытнасьцю і хцівасьцю ката,
Хапае хлопчык іх няжорсткаю рукою,
А астаецца ў ёй — адна слата.



Ад сьпёкі пышуць дахі і асфальт,
На вуліцы ўёцца пыл і грукаціць хурманка,
„Каробушку“ пяе дзіцячы альт
І надрываецца абрыдлая шарманка

Хаця-бы крышку часу адпачыць!
Мо' на бульвар пайсьці, сесьць на далёкай лаўцы
Здрамнуць, газэту сьвежую купіць
І прачытаць усё да імені выдаўцы?!

# ДЗЬВЕ СЬМЕРЦІ.

Учора на Мяшчанскай вул. д' № 17 атруцілася сінільным квасам І. І. Іванова. Прычыны самагубства невядомы.

Калі патрыцый сьмерць з прыветам спатыкаў,
Прабіўшы жылы на руках,
Дрыжэлі сьпевы флейт, дзень ясны дагараў,
А праз вакно струёю вецер павяваў
І... мігдалёвы горкі пах.

Ты, грозны жэрабій, учора ўзяты зноў,
На строга сьціснутых губах
Ня мгліцца люстра гладзь; застыгла ў жылах кроў;
Скрозь вее цяжкі дым ад спаленых лістоў
І... мігдалёвы горкі пах.

# ДУМЫ.

Съ Израилем пѣвцу одинъ законъ:
Да не творитъ себѣ кумира онъ.
Е. Баратынскій.

De quelque mot profond tuot homme est le disciple.

## С. Е. ПАЛУЯНУ.

Глянь, як зорка у цемні ляціць,
Ўсіх чаруючы сьветлам сваім,
Быццам зьмей залаты зігаціць,
І стухае у небе глухім.
Але ўспомніць яшчэ зорку сьвет,
Бо у сэрцах гарыць яе сьлед.
Так свабодна, так ярка пражыць —
Лепшай долі няма на зямле.
Ўсё кругом на мамэнт асьвяціць, —
І пагаснуць у цёмнай імглі.
Ўсё зьнікае, праходзіць, як дым,
Сьветлы-ж сьлед будзе вечна жывым.

# КАГАНЦУ.

Змоўк пясьняр, затаіў свае шчырыя песьні,
Ён іх болей ужо не пяе.
Але рвуцца яны і калісь на прадвесьні
Лёд халодны ў душы пад напорам іх трэсьне
І струёй лынуць вершы з яе.

Гэтак часам уходзіць у землю крыніца,
Дзесь у нетрах таёмна бяжыць,
Але мусіць урэшце на волю прабіцца.
Шмат яшчэ па зямлі будзе ліцца — каціцца
І радзімаму краю служыць.

## УПАЛІ З ГРУДЗЕЙ ПАНА БОГА...

Упалі з грудзей пана бога,
Парваўшыся, пацеркі зор.
Яны раскаціліся ў небе,
Усыпалі сіні прастор.
І стуль так маркотна і пільна
На край мой радзімы глядзяць...
Што-ж там яны, ясныя, бачаць?
Чаго ўсё дрыжаць і дрыжаць?...

## КРАЮ МОЙ РОДНЫ! ЯК ВЫКЛЯТЫ БОГАМ...

Краю мой родны! Як выкляты богам —
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты... Над збожжам убогім
Вецер гуляе на волі.

Поруч раскідалісь родныя вёскі.
Жалем сьціскаюцца грудзі! —
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурыя людзі...

Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,
Вынесьлі моцныя сьпіны;
Шмат іх прымусілі выцерпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны.

Кінь толькі вокам да гэтага люду —
Сьцісьнецца сэрца ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
Столькі нуды без патолі.

Песьня пяе, як удовіна сына,
Янку, каханьне згубіла;
Там, дзе панура схілілась каліна,
Беднага хлопца магіла.

У гутарках-казках аб шчасьці, аб згодзе
Сэрца навін не пачуе.
Сьціснула гора дыханьне ў народзе,
Гора усюды пануе.

Хваляй шырокай разьлілась, як мора,
Родны наш край затапіла...
Брацьця! Ці зможам грамадзкае гора?!
Брацьця! Ці хваце нам сілы?!

* * *

Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі
Каля агнішча лёг і сьціхнуў у паўсьне.
Агонь усё слабеў... урэшце зьнік паволі...
І ўраз зрабілася вясёла неяк мне!..
Хай, шэры попел, ты агнішча ўсё сабою
Ў нядоўгі час здалеў, як рызаю, пакрыць, —
Я ведаю, што там агонь дрыжыць пад ёю,
Я ведаю, што там чырвоны жар гарыць...
Хай чарада гадзін панурых, нудных, шэрых,
Як попел, на душу мне клалася ўвесь час,
Хаваючы сабой агонь гарачы веры, —
Хай ня відаць яго... а ўсё-ж ткі ён ня згас!

* * *

Кінь вечны плач свой аб старонцы!
Няўжо-ж цёмнай ноччу ты
Ня бачыш, што глядзіцца сонца
Ў люстэрка — месяц залаты?

Не згасла сонца! Сонца гляне,
Усіх падыме ада сна!
Ён, гэты дзень, яшчэ настане, —
І ачунее старана!

Я пад яе зімовай маскай —
Пад сьнегам — бачу твар вясны,
І вее верш мой дзіўнай казкай,
І ясны ён, як зорак сны.

* * *

Зразаюць галіны таполі адну за адной...
Бяз скаргі яны на зямлю чарадою лажацца,
Бо сьмерць іх патрэбна, каб дзерава новай вясной
Магло-бы хутчэй разьвівацца.

Таварышы-брацьця! Калі наша родзіна-маць
Ў змаганьні з нядоляй патраціць апошнія сілы, —
Ці хваце нам духу ў час гэты жыцьцё ёй аддаць,
Бяз скаргі легчы ў магілы?!



Рушымся, брацьця, хутчэй
Ў бой з жыцьцём, пакідаючы жах;
Крыкі пужлівых людзей
Ня стрымаюць хай бітвы размах...

Проці цячэньня вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі-ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць.

* * *

Нашых дзядоў душылі абшары лясоў,
Не давалі ім жыці праўдзівым жыцьцём,
І яны тыя пушчы звадзілі агнём,
Іх кругом падпаліўшы з далёкіх канцоў.

І пылалі па нашаму краю лясы,
Покуль сонца здалела ўсё ў ім асьвяціць;
І сьвятлей і прасторней тады стала жыць,
А на попеле буйна ўзрасьлі каласы.

З гэтых дзядоў суворых прыклад нам-бы ўзяць, —
Ня хіліцца з бяды, ня пужацца агня,
Бо мы толькі тады дачакаема дня,
Калі нас ня здалее змаганьне зьлякаць.

* * *

Ўстань, навальніца, мкні нанова,
Ўзвый вецер з ёю за адно!
У віхры уляціць палова, —
Пакіне чыстае зярнё.
Удар, цыклон, удар на мора,
Цалуй яго ў глухое дно,
Ўсплясьні ваду — і пэрлаў горы
На бераг выкіне яно.

* * *

Ня блішчыць у час зьмярканьня і ў глыбокай
цемні ночы

Дыямэнт каштоўны,
Але белым днём красою нам чаруе, вабіць вочы
Бліск яго цудоўны.

Бо калі на гэты камень упадуць праменьні сонца,
Ўраз ён блісьне дзіўна
І вясёлкавыя іскры рассыпаць пачне бясконца
Ярка, пераліўна.

Так здаецца ў змроку ночы цёмным і народ мой
родны,

Бедны і няшчасны;
Але, як устане сонца, ўраз прачнецца дух народны,
І засьвеціць ясна!

* * *

Напілося сонца са крыніц сьцюдзёных,
Усьцягнула ўвышу з іх ваду, як пар;
І, ўзляцеўшы шпарка па праменьнях тонкіх,
Пар зрабіўся сьлічнай чарадою хмар.

Ўдаль яны памкнулі і лятуць пад імі
Нівы ды балоты, поле, бор, лука.
Але што там блішча? Ці ня ты, сястрыца,
Ці ня ты ліешся срэбная рака?

Загрымелі ў хмарах гулка прывітаньні
І далёка буйны вецер іх разьнёс.
Рынуліся хмары да ракі радзімай
І зьліліся з ёю ліўнем кропель-сьлёз.

* * *

Ой, чаму я стаў поэтам
Ў нашай беднай старане?
Грудзі ныюць, цела вяне,
А спачыць ня можна мне:
Думкі з розуму ліюцца,
Пачуцьцё з душы бяжыць...
Мо' за імі кроў палыне —
І тады ўжо досі жыць!

* * *

Даўно ўжо целам я хварэю,
І хвор душой, —
І толькі на цябе надзея,
Край родны мой!

У родным краі ёсьць крыніца
Жывой вады.
Там, толькі я змагу пазбыцца
Сваей нуды.

Калі-ж у ім умру-загіну —
Ня жалюсь я!
Ня будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, зямля.

Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там пад зямлёй,
Знайдуць мае слабыя грудзі
Сабе спакой.



Калі зваліў дужы Гэракл у пыл Антэя,
Як вецер валіць поўны колас да ральлі, —
Ўдыхнула моц у грудзі сына маці Гэя,
І вось, цьвярды, як дуб, яшчэ чым перш сільней,
Ён, напружыўшыся, падняўся ўраз з зямлі.

Паломаны жыцьцём, чакаючы магілы,
Радзімая зямля, прынікнуў я к табе.
І бодрасьць ты ўліла ў слабеючыя жылы,
Зварушыла маей душы драмаўшай сілы.
І месца ў ёй з тых пор няма ўжо больш жальбе.



Бледны, хілы ўсё-ж люблю я
Твой і мудры і кіпучы верш, Анакрэон!
Ён у жылах кроў хвалюе,
Ў ім жыцьцё струёю плешча, вее хмелем ён.

Верш такі, — як дар прыроды —
Вінаградная, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы, —
Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно.

* * *

...passe sans laisser même
Son ombre sur le mur

V. Hugo.

Жывеш нявечна, чалавек, —
Перажыві-ж у момэнт век!

Каб хвалявалася жыцьцё,
Каб больш разгону ў ім было,
Каб цераз край душы чуцьцё
Ня раз, ня два пайшло!

Жыві і цэльнасьці шукай,
Аб шыраце духоўнай дбай.

І ў напружэньні паўнаты
Свайго шырокага жыцьця —
Бяз болю, ціха зойдзеш ты
Ў краіну забыцьця.



Мудрай прамовы
Мёд залацісты,
Поўныя соты
Мне да спадобы;

Але ня меней
Сэрцу панадны
Мёд сваім хмелем
Сьветлым і тонкім.

* * *

Дзе вы, лясоў, палёў цьвяты?
Вас холад загубіў!
Чаму-ж ён срэбныя цьвяты
На гэтым шкле ўзрасьціў?

Ім, бледным, мёртвым ня збудзіць
Былога пачуцьця,
Як не змагу яго збудзіць
Халодным вершам я.

* * *

Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы
Ўпадзе пясчынка хоць адна, —
Жамчугом патроху робіцца яна!
Калі ў дух мой западзе і заварушыцца, —
Там кавалак грубага жыцьця, —
Ў жомчуг зьвернецца ён сілай пачуцьця!

* * *

Сьвяча бліскучая зіяе,
Каб расступілася імгла;
Ў яе агню — краса жывая, —
Яна прыгожа і сьвятла.

Ўблізі матыль дрыжыць ад болю
Прываблены з імглы агнём,
Ён рынуўся туды бяз волі
І сьмерць спаткаў у ём.

Сьвяча гарыць. З яе лiецца
За кропляй кропля, як раса,
А матылёк ужо ня б'ецца:
Табе ахвяра ён, краса!

## ПЕСЬНЯРУ.

Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей
Сэрцы цьвёрдыя, быццам з каменьня.
Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,
Ня збудзіўшы сьвятога сумленьня.

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеньнем.
Як ударыш ты ім, — ён як звон зазьвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменьняў.

# Нізка вершаў „Вольныя думы“.

Meine Bitterkeit kömmt nur aus den Galläpfeln meiner Dinte, und wenn Gift in mir ist, so ist es doch nur Gegenift.

Heine.

## ЎСТУП.

Я думы, няскутыя путамі,
Тут перад вамі выводжу,
А проці ганеньня кажу:
Хваробы лечаць і атрутамі.

## ГУТАРКА З ПАНЕНКАМІ.

„Пабачце! Ластаўка малая
Для птушанят гняздо зрабіла,
І клапатліва ўкруг лятае, —
Аж паглядзець прыемна-міла!“

„Вельмішаноўныя паненкі!
Тут ёсьць, напэўна, трохі цуду.
Ў гняздзечку міленькім і сьценкі,
І дно яна зьляпіла з бруду“.



Вы кажаце мне, што душа у поэта,
Калі спараджае ён дзіўныя вершы,
Нябесным агнём абагрэта,
І ў час той між люду ён — першы...

Ах, дзякуй вам, дзякуй на гэтай прамове;
Душа мая, пэўна, шчасьлівай была-бы,
Калі-б я ня ведаў, панове,
Што пекна сьпяваюць і жабы.



Вы, панове, пазіраеце далёка,
Ў бліску сонца з вялізарных плеч народных,
Але сьвятло крые шмат чаго ад вока: —
Днём ня бачыце Вы зорак пуцяводных.

Заглянеце-жа, будзь ласка, Вы у студню:
Ўжо даўно яна счарнела і згнівае,
Але дно яе і ўночы і ў палудню
У вадзе люстранай адбівае.

К тым, каго жыцьцё заціснула глыбока
Ўніз, у норы пад'зямельныя пад Вамі,
Вы, панове, хоць і бачыце далёка,
Заглянеце ў душы — студні са сьлязамі.

* * *

Мы доўга плылі ў бурным моры,
І ўраз — жаданая зямля!
Вы пэўны — пуцы казалі зоры,
Зарука ў тым, — трэск карабля,
Што сеў на скалы ў змрочным моры.
Прывет жаданая зямля!
І бястрывожна бачаць зоры,
Як тонуць людзі з карабля.



Была калісь пара: гучэла завіруха
І замяла маей мінуўшчыны сьляды.
Усьціхла ўжо яна... Плывуць удаль гады,
А ўсё ня б'юцца крыльлі духа:
Куды цяпер ісьці? Куды?

Ў душы гарыць агонь нуды—пануры, чорны.
Ці мне крыніцай сьлёз сваіх яго заліць
І плугам цяжкага мучэньня сэрца ўзрыць?
Мо' ўзойдуць там надзеі зёрны!..
Куды-ж ісьці і што рабіць?

# МНЕ СЬНІЛАСЯ.

Ўсё вышэй і вышэй я на гору ўзьбіраўся,
Падымаўся да сонца, што дае нам цяпло:
Але чым болей да яго набліжаўся,
Тым усё халадней мне і маркотней было.

Заскрыпеў сьнег сыпучы пад маімі нагамі,
І марозам калючым твар пякло ўсё крапчэй.
І пануры, прыстаўшы, ўніз пайшоў я сьнягамі,
Сонца там хоць і далей, але грэе цяплей!



Шмат у нашым жыцьці ёсьць дарог,
А вядуць яны ўсе да магілы.
І бяз ясных надзей, бяз трывог,
Загубіўшы апошнія сілы,
Мы сайдзёмся, спаткаемся там
І спытаем сябе: для чаго мы
Па далёкіх і розных пуцях
Адзінока йшлі ў край невядомы?
І чаму пасьпяшаліся так,
Напружаючы ўсе свае сілы,
Калі ціха паўзучы чарвяк
Ўсё-ж дагнаў нас ля самай магілы?

# Нізка вершаў „Старая Спадчына“.

Мы зерна древніе лелеемъ,
Мы урожай столѣтій жнемъ.
В. Брюсовъ.

## ПЭНТАМЭТРЫ.

Чыстыя сьлёзы з вачэй пакаціліся нізкай парванай,
Але, упаўшы у пыл, брудам зрабіліся там.

* * *

Хіліцца к вечару дзень і даўжэйшымі робяцца цені;
З болем пад захад жыцьця ўспомніш пра гэтае ты.

* * *

З нізкага берагу дно акіяну вачом не даступна, —
Глуха укрыла яго сіняя цемень вады.
Але ўзьбярыся ўгару на вяршыну прыбрэжнай страмніны, —
Кожны каменьчык на дне, пэўна, пабачыш ты стуль.

## НЕПАГОДАЮ МАЁВАЙ.

Падаюць вішняў цьвяты і разносіць іх вецер
халодны;
Сьнегам у чорную грязь падаюць вішняў цьвяты.
Плачце, галіны, лісты! Загубілі вятры цьвет ваш
родны, —
Не к чаму болей вам жыць. Плачце, галіны, лісты!

# СОНЭТ.

*(Ахвярую А. Погодіну).*

Un sonnet sans défaut vaut seul un long poème.
Boileau.

Паміж пяскоў Эгіпэцкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла
Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
Ў гаршчку насеньня жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё-ж такі жыцьцёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясеньняй збожжа на ральлі.

Вось сымболь твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух народны,
Я верую, бясплодна не засьне,
А ўперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.

## СОНЭТ.

Ne ris point du sonnet, o critique moqueur.
C. Bob.

На цёмнай гладзі сонных луж балота,
За сьнег нябеснай вышыні бялей,
Кругом паўсталі чашачкі лілей
Між пачарнеўшых каранёў чарота.
Ўкруг плесьня, бруд, — разводзіць гніль сьпякота,
А краскі ўсё-ж ня робяцца гразьней,
Хоць там плыве парою сьлізкі зьмей
І ржаўчына ляжыць, як пазалота.

Цяпер давольна топкае багно:
Гніль сотні год зьбіраючы, яно
Смуроднай жыжкаю узгадавала
Цьвятоў расістых чыстую красу.
Маліся-ж, каб з літоўнасьці стрымала
Тут сьмерць сваю нязвонкую касу.

# ТРЫЯЛЕТ.

Красавецъ юный тріолетъ
К Фофановъ

Як птушка ў гібкіх трасьніках,
Стралою думка мільганула,
І ўраз-жа зьнікла, патанула,
Як птушка ў гібкіх трасьніках.

Ды ўсё-ж душа яе пачула
І ўжо пяе ў такіх славах:
„Як птушка ў гібкіх трасьніках,
Стралою думка мільгнула“.

## ТРЫЯЛЕТ.

Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асьляпіла вочы.
Ды што мне цемень вечнай ночы?
Калісь глядзеў на сонца я.

Няхай усе з мяне рагочуць —
Адповедзь вось для іх мая:
Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асьляпіла вочы.

## РОНДО.

Узор прыгожы пекных зор
Гарыць у цемні небасхіла:
Вада балот, стаўкоў, вазёр
Яго ў глыбі сваёй адбіла.
І гымн сьпявае жабаў хор
Красе, каторую зьявіла
Гразь луж; напоўніць мгла прастор,
І ўстане з іх гарачы міла
Узор.

І сонца дальш, клянуць, што скры
Луж зоры днём. І чуе бор,
І чуе поле крэхат хілы,
Ды жаб ня ўчуць вышэй ад гор
Там, дзе чыясь рука зрабіла
Узор.

## ОКТАВА.

Як моцны рэактыў, каторы выклікае
Між строк ліста, маўляў нябожчыкаў з магіл,
Рад раньш нявідных слоў, — так цемень залівае
Зялёны, быццам лёд, халодны небасхіл,
І праз імглу яго патроху праступае
Маленькіх, мілых зор дрыжачы, срэбны пыл.
Здароў, радзімыя! Мацней, ясьней гарэце
І сэрцу аб красе прыроды гаварэце!

## ТЭРЦІНЫ.

Ёсьць чары у забытым, старадаўным;
Прыемна нам сталецьцяў пыл страхнуць,
Пажыць мінулым—гэткім мудрым, слаўным,—

Быцьцё дзядоў у смутку ўспамянуць.
Мы сквапна цягнемся к старым поэтам,
Каб хоць душой у прошлым патануць.

І вось зьвярнуўся я к рондо, сонэтам,
І бліснуў ярка верш пануры мой:
Як месяц зіхаціць адбітым сьветам.

Так вершы зьзяюць даўніх форм красой!

## ГРАМАДА ЗОРАК „КАРОНА“.

(«Metamorphoses» Овідыя, кніжка 8-ая, вершы 178—182).

Бог Аполён з галавы зьняў карону і кінуў у неба.
Ў сьветлым паветры яна пралятае; агнямі малымі
Робяцца ў ёй на ляту ўсе каменьні каштоўныя.
Ў небе
Быццам карона-жа між на каленях стаячага
Нікса
І паміж Цмока яна, затрымаўшыся, блішча на
месцы.

# З КРЫМСКАГА.

(Пераклад з украінскай мовы).

Кажуць людзі, быццам, творачы мужчыну,
Бог зрасіў вадою высахшую гліну.
Але чорт падкраўся; выціснуўшы воду,
Падмяшаў ён сьлёзы ў нашую прыроду.

Нудзяць нас праз тое цягам смуткі, жалі,
І адзін ратунак, каб яны маўчалі —
Выплакаць іх шчыра, галасна ці ціха,
Каб з сьлязамі разам вылілася ліха.

Ох, мне з гэтым лекам ачуняці трудна,
Сьлёзаў я ня маю, а ў душы так нудна.
Ўжо яна згарэла, а ня плачуць вочы,
Ўжо самлела сэрца, а плакаць ня хоча.

## С ЧАРНЯУСКАГА.

(Пераклад з украінскай мовы).

Ўжо зноў не спаткаюцца тыя шляхі,
Якімі ў жыцьцё выходзілі мы зраньня,
Мы ўсе пакляліся, маўляў жаніхі,
Да сьмерці адзінае меці каханьне.
А як разыйшліся — пакінулі нас
Заходы і думкі высокія ўраз:
На іншыя сьцежкі жыцьцё нас зьвяртае,
Па своему кожны свой век пражывае,
У кожнага неба і сонца свае,
Супольная-ж праўды крыніца ня б'е.

# З ОЛЕСЯ.

(З украінскага).

Пекла было тут у тую часіну:
Гром, звар'яцеўшы, стагнаў і равеў,
Білі вакол пяруны бяз упыну,
Ўвесь небасхіл то пылаў, то чарнеў.

Бура прайшла, і людзей я пытаю, —
Што-жа зрабілася з роднага краю?
Пэўна, руіны ў ім бура зрабіла...
Кажуць разьбітую ліпу дабіла.

Думка! Калі я цябе выліваю
Ў слова халоднае, ў песьню сваю,
Гэткае-ж пекла ў душы сваей маю,
Паліць яна мне душу ўсю маю.

Што-ж, асьцюджоная словам людзкім,
Ты нарабіла ў краю дарагім?
Можа разьбіла маркотную ліпу,
Сьмерці прасіўшую ў нуднаму рыпу.

# АСТРЫ.

Упоўначы астры ў саду расцьвілі,
Убраліся ў росы, вянкі заплялі,
І сталі ружовага ранку чакаць,
Ў вясёлку калёраў жыцьцё убіраць.

І марылі астры ў цудоўнаму сьне
Аб зёлках шаўкоўных, аб соўнечным дне,
І казачны край падымаўся з іх сна
Дзе кветы не вянуць, дзе вечна вясна...

Так марылі ў шэрую восень яны,
Так марылі астры і ждалі вясны.
А ранак спаткаў іх халодным дажджом,
І вецер стагнаў у саду за кустом.

І ўбачылі астры, што ўкруг іх — турма,
Убачылі астры, што жыць ім — дарма.
І ўмерлі яны. Але тут, як на сьмех,
Паднялася сонца, цалуючы ўсіх.

## У ВЕСЦЫ.

Lumen coeli, sancta rosa!
А. Пушкинъ.

Хвалююць сэрца нам дзявочыя пастаці
І душы мацярэй нас могуць чараваці;
Вышэйшая краса — ў іх зьлітнасьці жывой!
Артысты-маляры схіляліся прад ёй,
Жадаючы зьявіць цераз свае халсьціны
Пачуцьці мацеры у вобліку дзяўчыны,
Красы тэй сымвалам, Маць-Дзева, стала Ты —
І глянулі твае з-пад пэнздаляў чарты.
З таёмным трэпетам на іх я пазіраю,
А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю.
Мінулае сваё прыпамінаю я!
Між цёмных абразкой прайшоўшага жыцьця
Шукаю сквапна штось трывожнаю душой
І здараньне адно ўстае перада мною.

* * *

Калісьці летняю рабочаю парой
Праз вёску я ішоў. Панураю чаргой
З абох бакоў крывой і вузкай вулкі хаты
Стаялі — шэрыя, струхлеўшыя; як латы,

Віднеліся ў сьцянах сьляпыя вокны іх
І аж чарнелася салома стрэх гнілых.
Ўсё руйнавалася, старэла, адмірала
І мала што вакол хоць трохі аздабляла
Вясковую нуду; мак яркія цьвяткі
Рожнакалёрныя, як тыя матылькі,
У градах высыпаў і цешыў імі душу,
Ды можна йшчэ было там-сям пабачыць грушу,
Крывую, старую... вось толькі і ўсяго.
І да таго-ж з людзей ня відна нікаго, —
Яны на полі ўсё; не мільканець спадніцэ,
Ня пройдзе з вёдрамі па воду маладзіца,
Ня ўгледзіш белую магерку мужыка,
Ў паветры не памкне іржаньне жарабка
І песьня сумная не паліецца звонка...
Што-ж дзіўнага, калі, раптоўна крык дзяцёнка
Пачуўшы, дрогнуў я і аглядзеўся Ах!
Я спудзіў хлопчыка; на руках і нагах
Ён, бедненькі, папоўз па траўцы ля сьцяжынкі,
Да нянькі траплячы — так год васьмі дзяўчынкі.
І вось, дабраўшыся ў падолак, разам з ей
З трывожным голасам уткнуўся ён хутчэй
І, як схіляецца ад ветра верх бярозкі,
Дзяўчынка к хлопчыку нагнулася і, сьлёзкі
Сьціраючы яму, штось пачала казаць,
Каб заспакоіць плач — зусім, як быццам маць.
І саліваліся ў жывы абраз ядыны
Той выгляд мацяры ды з воблікам дзяўчыны —
Дзіцячым, цененькім; і ў гэты час яна,
Здавалася, была аж да краёў паўна
Якойсь шырокаю, радзімаю красою, —
І, помню, я на міг пахарашэў душою.

А можа не краса была ў дзяўчынцы той, —
Дзяўчынцы ўпэцканай, і хілай, і худой, —
А штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі.

* * *

Страніца лепшая ў штодзёньніку жыцьця!
Зноў з ціхай радасьцю цябе чытаю я.
Хай шмат чаго з тых гадоў крыніца змыла
У памяці маёй, хай той дзяўчынкі мілай
Ўжо воблік губіцца у цёмнай глыбіне, —
Я веру, ў цяжкі час ён гляне на мяне!

# Вэроніка.

(*Вершаванае апавяданьне*).

«E un pensier del mio capo»
(Яна — выдумка маей галавы).
(Джіованьні)

Я на душы васковай маю
Жыцьця мінулага пячаць:
Схачу свой вольны верш пачаць, —
І ўраз праз прошлае згадаю,
Удаль вядуць мяне сьляды
Да вас, дзіцячыя гады.

Устае перад маім паглядам
І вулка, веючая сном,
І ціхі, старасьвецкі дом
З цяністым, адзічэлым садам:
Над ім шпакоўніца ўгары,
А ўкруг схіліўся тын стары.

Дом гэты да паноў Забелаў,
Суседзяў нашых наляжаў;
Я змалку там штодзень гуляў,
З дзяцьмі іх лез на дахі сьмела,
Рваў яблыкі, рабіў „садом“
І крыкам поўніў цэлы дом.

Вясёла йшлі гулянкі нашы:
Пад шум і гук размах рукі
Ўраз „браў на вынас“ гарадкі,
Быў чутны сьмех пры відзе „кашы“
І кожны стрымліваў свой плач
Калі ўразаўся ў плечы мяч

А вечарком мы выпускалі
Ў паветра белых галубоў,
Зрабіўшы некалькі кругоў,
Увышыню яны шыбалі,
Як чысты сьнег, кружылі там
І падалі на дахі к нам.

Калі-ж сачыўся бледнаваты
Зор сініх сьвет праз небасхіл
І уплятаўся вулак пыл, —
Мы ўсе пяялі каля хаты
І напаўняў нягучны хор
Маркотнай песьняй сціхшы двор

Так у гулянках пралятала
Маё дзіцячае жыцьцё,
А поруч ціхае дзіцё,
Дачка Забелаў узрастала.
Яе я мала знаў: яна
Ўсягды была сама, адна

Жылося цяжка Вэроніцы
(Хай так дзяўчыну будзем зваць):
Яе памерла рана маць
І ня было зусім сястрыцы,
А бацька, сэрца хоць і меў,
Ды прытуліць яе ня ўмеў.

І змалку шчыра палюбіла
Хавацца ў сад стары яна,
Дзе веела дыханьне сна
І цішыня ў паветры плыла,
І нярухомы быў спакой,
Маўляў у глыбіні марской.

Ня калыхнуцца лісьцяў хвалі,
Ўсплясь нуўшы пенаю цьвятоў
Паверх чарэшневых кустоў;
Кіпіць шум места дзесь там далей,
А тут і глуха і цямно, —
Не зварухне марское дно.

І забывала Вэроніка
Між зёлак з кніжкай аба ўсём,
А ўзгляне, — сад кіпіць жыцьцём,
Над ёю куст шыпшыны дзікай,
Бруяе блізка сонны шмель
І горка пахне тонкі хмель.

Ізноў страніца     страніцай
Раскрытай кнігі шалясьціць,
Нячутна час кудысь бяжыць,
Раяцца думкі Вэронікі,
Усё расьце душа яе
І ў паўнаце красы ўстае

Калі-ж всаенныя навіны
Зьмянялі сад, калі з бяроз
Рваў лісьці вецер, а мароз,
Наліўшы ягады рабіны,
Траву губіў, і мы нагой
Ўзрывалі прэлых лісьцяў слой;

Калі патроху чырванелі
Чаромха, ліпа, стройны клён,
А гнёзды змрочныя варон
Між голага гальля чарнелі,
І грозны вечара пажар
Палаў між бура-шызых хмар;

Калі васенны вецер дзіка
Стагнаў і глуха па начах
Грымеў у наш жалезны дах, —
Тады да лета Вэроніка
Ад нас зьнікала у інстытут
І ня будзіла згадак тут.

А час усё каціўся далей
Хаваючы на дне гадоў
І гарадкі і галубоў,
Мы панямногу падрасталі,
А іншы ўжо шчыпаў вусы
І лічыў іх гарой красы.

І толькі ўжо тады я ўгледзеў
Што поруч, як цьвяток лясны,
Ўзрасла ў красе сваей вясны
Дачка самотная суседзяў
І, — помню я, — тады-жа ўперш
З маей душы паліўся верш.

Ён там кіпеў струёй жывою
Праз холад мысьлі працякаў
І ў цьвёрдых формах застываў,
Як воск гарачы пад вадою,
Каторым трэба вам гадаць,
Аб чым той вершык меў казаць.

Я-ж сам скажу йшчэ тое толькі,
Што к Вэроніцы твор паслаў
І млеў, і ўсё адказ чакаў.
Аж вось прайшло маруды колькі
Трывожных дзён, а ўсё няма
Ні Вэронікі, ні пісьма.

Калі-ж я неяк з ёй спаткаўся,
Загаварыўшы, як у сьне, —
Яна зірнула на мяне
І раптам з вуст яе сарваўся
Такі безвіны, чысты сьмех,
Што на яго злавацца — грэх.

Сьмех гэткі маюць толькі дзеці
Ды людзі з яснаю душой;
І ён, як жаваранак той,
Зьвінеў і ўжо каханьня сеці
Нячутна нішчыў, як ураз
Сарваўся, дрогнуў і пагас.

Накрыла ясны твар дзявочы
Задумы сумная імгла,
На плечы ручка мне лягла,
Спагадліва зірнулі вочы
І даляцеў к маім вушам
Ласкавы шэпт: „Мо' прыкра Вам?"

Не, зорка, мне было ня прыкра,
Бо бачыла адно душа, —
Як ты сьвяжа і хараша,
Як рада ты жыцьцю нявольна
Уся пад срэбнаю расой
Са ўстужкай скромнай між касой.

І мела дзеўча выгляд маці
Калі тады ка мне яна,
Трывожнай ласкаю паўна,
Схілілася, як да дзіцяці,
Зіяючы перэда мной
У новай пекнасьці жывой:

У той, што з постацьцю дзяўчыны
Зьлівала мацеры чарты.
О, як прыгожы — дзіўны ты,
Двайной красы аблік адзіны!
Ажыў у ім твой вечны цэль,
Мадонн тварыцель, Рафаэль!

І прад высокаю красою,
Увесь зачараваны ёй,
Скланіўся я душой маёй
Натхнённай, радаснай такою,
А ў сэрцы хораша было, —
Там запалілася цяпло.

Дасюль яшчэ яно палае;
Здаецца — ўмёрла, але ўраз
Праб'ецца зноў і прошлы час
Прад ім у згадках праступае,
Як пры агню ці цеплаце.

І конь крылаты да Парнаса
Мой дух імчыць тады, каб я
Былое апяваў пасьля.
Ды як знайсьці сьляды Пэгаса
На бруку места? Цяжка ўперш!
Спачынь-жа трохі, верны верш!

# ЗЬМЕСТ.

Стар.



**Нізка вершаў „Згукі Бацькаўшчыны“.**



**Нізка вершаў „Старая Баларусь“.**



**Нізка вершаў „Места“.**

Думы.



Нізка вершаў „Вольныя думы“.

**Нізка вершаў „Старая спадчына“.**



**Мадоны.**



---

## Заўважаныя абмылкі ў друку:

| *Надрукавана.* | *Трэба.* | *Стар.* | *Радок.* | |
|---|---|---|---|---|
| неспадзявава | неспадзявана | III | 3 | зьверху |
| берега | берага | 10 | 6 | » |
| Да рэчкі | Да рэчкі, | 16 | 3 | » |
| На крылох | На крылох, | 16 | 5 | » |
| З ўсіх | З усіх | 16 | 4 | зьнізу |
| бязцэльная | бясцэльная | 23 | 3 | » |
| над зямлёю | над зямлёю, | 31 | 7 | зьверху |
| пры | пары | 31 | 11 | » |
| места | места, | 48 | 3 | зьнізу |
| аннонсы | анонсы | 50 | 4 | зьверху |
| плакаты | плякаты | 50 | 4 | » |
| сіпяшчы | сіпячы | 50 | 4 | зьнізу |
| Гэракл | Геракл | 72 | 1 | зьверху |
| Прывет | Прывет, | 84 | 3 | зьнізу |
| У весцы | У вёсцы | 105 | 1 | зьверху |